*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

**№ 57 (1122)**
Серада, 28 сакавіка 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 80 руб.,
у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

Пейджинговую связь редакции обеспечивает
МОБИЛКОМ
пейджинг-система
(017) 222-46-51
(017) 222-46-52




Кальченко & К°

**Навіны**

## Суды над удзельнікамі Дня Волі

**26 сакавіка ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска адбыліся першыя суды над удзельнікамі святкавання Дня Волі ў Мінску 25 сакавіка.**

Усяго ў суд былі дастаўлены са спецпрыёмніка-размеркавальніка і прыбылі па позвах 12 чалавек. Разгледжаны 3 адміністрацыйныя справы.

Суддзя Наталля Вайцяховіч прызнала 20-гадовага Дзмітрыя Чубарэнку, удзельніка несанкцыянаванай дэманстрацыі і мітынгу ў Дзень Волі, вінаватым у парушэнні грамадскага парадку (артыкул 167-1 частка 2 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях). Суддзя вынесла пастанову аб адміністрацыйным арышце Чубарэнкі на 10 сутак. Дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання Людміла Гразнова аштрафавана на 20 мінімальных зарплат. Выкладчыку адной з мінскіх вышэйшых навучальных устаноў дацэнту Віктару Бекішу вынесена папярэджанне.

Разгляд спраў 9 чалавек перанесены на іншыя дні. Адміністрацыйная справа старшыні БНФ Вінцука Вячоркі будзе разглежана 28 сакавіка, кіраўніка праваабарончага цэнтра "Вясна" Алеся Бяляцкага — 2 красавіка.

## Спальванне расійскага сцяга — правакацыя

**Кіраўнікі БНФ Вінцук Вячорка і Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька асудзілі спальванне сцяга Расійскай Федэрацыі падчас мерапрыемстваў у Дзень Волі 25 сакавіка ў Мінску.**

Лідэр АГП Анатоль Лябедзька сказаў, што партыя прыняла заяву, у якой факт спальвання расійскага сцяга расцэньвае як правакацыю. "Спальванне сцяга не з'яўляецца пазіцыяй Аб'яднанай грамадзянскай партыі і яе прыхільнікаў. На наш погляд, змагацца за сваю нацыянальную сімволіку, спальваючы сімвалы іншых краін, вельмі непрадукцыйна", — сказаў Лябедзька.

Паводле слоў старшыні БНФ Вінцука Вячоркі, эпізод са спальваннем сцяга не ўваходзіў ні ў якія сцэнарыі і планы арганізатараў святкавання Дня Волі. "Узначальваемая мною арганізацыя не мае да гэтага ніякага дачынення. Варта зазначыць, што арганізацыйна падобныя эпізоды цяжка прадухіліць. Але, з іншага боку, трэба задумацца, чаму падчас практычна кожнай акцыі з'яўляюцца некалькі маладых людзей, што спальваюць сцяг менавіта гэтай краіны, а не якой-небудзь іншай. Пра гэта павінны задумацца ў тым ліку і расійскія палітыкі. Чаму тут, у Беларусі, перыядычна з'яўляюцца такія настроі ў дачыненні да расійскай сімволікі?" — зазначыў Вячорка.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## 7 мільёнаў аўтаматных патронаў

**Як стала вядома БелаПАН, бліжэйшым часам Міністэрства абароны Беларусі перадасць МУС рэспублікі 7 мільёнаў аўтаматных патронаў калібру 5,45 мм з дзяржаўнага стратэгічнага рэзерву ўзбраення, ваеннай тэхнікі і боепрыпасаў.**

Тлумачачы, для чаго Міністэрству ўнутраных спраў спатрэбілася такая колькасць боепрыпасаў, прэс-сакратар МУС Дзмітрый Партон зазначыў, што яны неабходны для выканання падраздзяленнямі міністэрства службовых і службова-баявых задач, а таксама для баявой падрыхтоўкі супрацоўнікаў і ваеннаслужачых унутраных войск. Ён нагадаў, што ў задачы ўнутраных войск уваходзяць, напрыклад, канваіраванне затрыманых, асуджаных, зняволеных, ахова месц пазбаўлення волі, што робіцца з аўтаматамі. Узброеныя гэткім жа чынам супрацоўнікі міліцыі бяруць удзел у затрыманні злачынцаў, з аўтаматамі нясуць службу супрацоўнікі падраздзяленняў аб'яднання "Ахова" пры Міністэрстве ўнутраных спраў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## "Беларускае пытанне" ў Жэневе

**26 сакавіка ў Жэневе (Швейцарыя) адкрылася 280-я сесія Адміністрацыйнага савета Міжнароднага бюро працы — кіруючага органа Міжнароднай арганізацыі працы (МАП), на якой, у ліку іншых, будзе разглядацца "беларускае пытанне".**

Размова ідзе пра скаргу, накіраваную ў МАП летам мінулага года лідэрамі трох найбуйнейшых галіновых прафсаюзаў Беларусі, а таксама Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў, у склад якога ўваходзяць пяць прафсаюзных арганізацый. У скарзе прыводзіліся шматлікія факты ўмяшання дзяржавы ў дзейнасць прафсаюзаў і спроб раскалоць рабочы рух.

У сувязі з абмеркаваннем скаргі на сесіі Адміністрацыйнага савета ў Жэневу накіравалася дэлегацыя ў складзе намесніка міністра працы Беларусі Алены Колас і намесніка начальніка аддзела міжнароднага супрацоўніцтва Мінпрацы Ігара Старавойтава. Гэта ўжо другі за апошні месяц візіт прадстаўнікоў беларускага ўрада ў Жэневу: папярэдні адбыўся ў канцы лютага. Тады члены беларускай дэлегацыі на чале з міністрам юстыцыі Генадзем Варанцовым правялі з прадстаўнікамі МАП кансультацыі наконт разгляду скаргі прафсаюзаў.

Як заявіў на нядаўняй прэс-канферэнцыі старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзімір Ганчарык, рашэнне МАП можа быць самым розным — ад рэкамендацый ураду ліквідаваць наяўныя парушэнні да ўнясення Беларусі ў спецыяльны параграф, вынікам чаго можа быць міжнародная ізаляцыя краіны.

Рашэнне, якое МАП прыме па "беларускім пытанні", будзе абмяркоўвацца 5—6 красавіка на рэспубліканскім сходзе прадстаўнікоў прафсаюзных арганізацый у Мінску. У ім чакаецца ўдзел прадстаўнікоў Міжнароднай арганізацыі працы, а таксама прафсаюзных дэлегацый шэрагу еўрапейскіх краін.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

## Аўтамабільная выстава "Маторшоу"

**З 26 красавіка па 1 мая ў Мінску пройдзе найбуйнейшая аўтамабільная выстава Беларусі — "Маторшоу". Арганізатарам выступае Беларуская аўтамабільная асацыяцыя, якая аб'ядноўвае дылераў вядучых сусветных аўтавытворцаў, месцам правядзення выбраны спартыўны комплекс "Уручча".**

Як паведамілі БелаПАН арганізатары выставы, браць удзел у ёй будуць такія вядомыя сусветныя аўтамабільныя вытворцы, як "Аўдзі", "Джэнерал Мотарс" ("Кадзілак" і "Шэўрале"), "Мазда", "Мерседэс", "Міцубісі", "Нісан", "Опель", "Пежо", "Рэно", "Сузукі", "Фіят", "Фольксваген", "Форд" і "Шкода". У "Маторшоу" таксама возьмуць удзел вытворцы запчастак і іншых тавараў і паслуг, звязаных з аўтамабілямі. Упершыню ў Беларусі чакаецца прадстаўленне аўтамабіля "Ферары".

Паводле інфармацыі арганізатараў, агульная плошча выставы складзе 6 140 квадратных метраў. Пры гэтым уся экспазіцыя будзе размешчана на адной выставачнай пляцоўцы, што зручна для наведвальнікаў. Паміж станцыяй метро "Усход" і спартыўным комплексам "Уручча" будуць курсіраваць бясплатныя аўтобусы.

Чакаецца, што фірменным персанажам выставы стане непаседлівы смоўж-кола, які сімвалізуе ўзрастаючае значэнне аўтамабіля ў сучасным грамадстве. Каб прыцягнуць на выставу як мага больш наведвальнікаў, арганізатарамі запланавана масіраваная рэкламная кампанія, у тым ліку розыгрыш каштоўнага прыза — аўтамабіля. У першы дзень — 26 красавіка — выстава будзе адкрыта для наведвання толькі па запрашальных білетах.

## Аб'ём таргоў на біржы знізіўся

**На Беларускай валютна-фондавай біржы (БВФБ) адзначана істотнае зніжэнне аб'ёму таргоў замежнымі валютамі. Напрыклад, сумарны аб'ём здзелак з валютамі за мінулы тыдзень склаў 67 мільярдаў 258 мільёнаў 259 тысяч беларускіх рублёў. Гэта на 8 мільярдаў 323 мільёны рублёў менш у параўнанні з аб'ёмам, зафіксаваным тыднем раней.**

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні валютнага рынку БВФБ, з 19 па 23 сакавіка на таргах прададзена 37 мільёнаў 330 тысяч долараў ЗША, 4 мільёны 368 тысяч нямецкіх марак, 322 мільёны 218 тысяч расійскіх рублёў, 1 мільён 627 тысяч еўра.

У параўнанні з папярэднім тыднем аб'ём здзелак у валюце па нямецкай марцы і расійскаму рублю павялічыўся на 223 тысячы нямецкіх марак і 42 мільёны 89 тысяч расійскіх рублёў, па долару ЗША і еўра паменшыўся на 8 мільёнаў 255 тысяч долараў і 847 тысяч еўра.

Змяненне каціровак за тыдзень па асноўных валютах, што выстаўляюцца на таргі, такое: долар ЗША вырас на 10 пунктаў, нямецкая марка — на адзін пункт, расійскі рубель вырас на 0,17 пункта, еўра павялічыўся на 3 пункты.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.**



*Вясна, надзея...*

Фота А. СІЛІЧА.

**Мнение**

## Нельзя проводить президентские выборы в июле

С интересом ознакомился с проектом постановления "О назначении выборов Второго Президента Республики Беларусь и организационных мероприятиях по обеспечению их проведения", который подготовил экс-глава Администрации президента Леонид Синицын и который был опубликован на страницах "Народной воли" (№49 от 15.03.2001 г.).

Следует признать, что документ составлен со знанием дела, человеком, который "пропустил через себя" огромную организационную работу по подготовке и проведению президентских выборов. Учтено буквально все. Думаю, что его могут принять за основу организаторы будущих выборов.

Однако хочется остановиться на одном вопросе — о дате президентских выборов. Их предлагается назначить на 15 июля 2001 года.

Такое решение не противоречит новой редакции Конституции. Согласно ей (ст.81), выборы Президента назначаются не позднее, чем за пять месяцев (т. е. не позднее 26 июля) и проводятся не позднее, чем за два месяца (т.е. не позднее 26 сентября) до истечения срока полномочий предыдущего Президента.

Это — если считать по "новой" конституции, введенной в действие с 26 ноября 1996 года. Ссылаясь на ее положения, А.Лукашенко продлил на два года срок своих полномочий. Но такие приемы — с продлением полномочий действующего главы государства — не признаются в современном мире. Все помнят, что А.Лукашенко приносил присягу на верность Конституции 20 июля 1994 года. Именно с этого дня и следует вести отсчет его полномочий. Окончание легитимного срока властвования А.Лукашенко молча зафиксировали практически во всех столицах мира, где к нему перестали относиться как к законному главе государства.

Поэтому вопрос о дате будущих президентских выборов не столь прост. И он имеет ряд правовых нюансов, которые дадут о себе знать после выборов. Другое дело, что власти не представляют себе иного варианта, как отсчет полномочий А.Лукашенко с 26 ноября 1996 года.

Однако вернемся к дате "15 июля 2001 года". Насколько она "удачна" для А.Лукашенко и для его соперников? Мне представляется, что она выгодна для нынешнего правителя. На так называемых парламентских выборах прошла "обкатка" основных методов, которые будут использованы для достижения "победных" результатов.

Следует учитывать, что июль — это период отпусков. Интеллектуальная часть общества — а это преимущественно сторонники реформ — постараются уехать к морю или на дачу. В то же время электорат А.Лукашенко — а это преимущественно пожилая часть общества и сельские жители — остается на месте. Опять же контроль за выборами будет не такой жесткий, что облегчит проведение всевозможных манипуляций со списками и подсчетом голосов. Может случиться так, что народ придет из отпусков, а страна живет с новым (все тем же) Президентом.

В этой связи могу предположить, что депутаты Палаты представителей, которым на весенней сессии предстоит принять решение о дате президентских выборов, согласятся с предложением Л.Синицына. По этому поводу стоит крепко задуматься всем потенциальным кандидатам в президенты и скорее приступать к подготовке выборной кампании.

Времени до выборов остается не так много. Скорее всего для достижения "победы" власть предержащие задействуют на полную мощь административный ресурс. Избирателей стройными рядами "погонят" на досрочное голосование. И весьма вероятно, что итоги выборов будут предопределены еще до дня выборов. Бесполезными могут оказаться усилия наблюдателей и разъяснительная работа представителей альтернативных кандидатов.

В оставшееся время надо придумать "противоядие" принуждению к безмотивному досрочному голосованию. Этот массовый произвол властей нужно как-то остановить. В противном случае уже сегодня можно поздравлять единственного кандидата от власти.

**Михаил ПАСТУХОВ.**

**О чем говорят...**

## "Московский след" Владимира Мацкевича

Решение бывшего шефа белорусского КГБ Владимира Мацкевича принять из рук Александра Лукашенко должность посла в Югославии напомнило о похожем (по крайней мере, внешне) поступке еще одного руководителя КГБ Геннадия Лавицкого, который тоже многое знал, но смиренно уехал из Минска послом в Израиль, где и успешно трудится по сей день. В оценке решения генерала Мацкевича аналитики разделились на две большие группы.

Некоторых оно привело в совершенное уныние и даже деморализовало. Они полагают, что проводить президентские выборы уже не имеет никакого смысла. Их исход предрешен в пользу Александра Лукашенко.

Такие рассуждения базируются на следующем — если уж сам Мацкевич, который, понятно, обладает огромной информацией, соглашается ехать послом в Белград, значит, он уверен в том, что Лукашенко продлит срок своих полномочий. Иначе, мол, какой смысл уезжать из Минска в преддверии самых волнующих событий. Да и не может генерал не понимать, что в случае победы на президентских выборах противников нынешнего главы государства ему придется вскоре оставить кабинет в столице Югославии и возвращаться восвояси с весьма запятнанной репутацией.

Более того, рушатся надежды тех, кто полагал: шеф КГБ при поддержке российского руководства сам будет баллотироваться в президенты и по аналогии с Владимиром Путиным убедительно их выиграет.

Другие аналитики призывают относиться к решению генерала спокойнее. Они полагают, что Владимир Мацкевич и не стремился стать первым человеком Беларуси. По их мнению, ничего страшного в его решении нет. Уехал и уехал. А передал он неприятную для Лукашенко информацию своим российским коллегам или не передал, большого значения не имеет. Хотя бы потому, что агенты российских спецслужб уже "скинули" ее в Москву явно не по одному каналу. И если команда Путина в нужный момент захочет компроматной информацией воспользоваться, то она ее пустит в ход независимо от того, где в данный момент находится экс-шеф КГБ — в Минске или в Белграде. И главный вывод этой группы таков — Кремль до сих пор не определился с тем, кого конкретно он будет поддерживать в Беларуси в 2001 году.

И только специалист в политической психологии Владимир Подгол высказывает еще одну — уже третью — версию. По его мнению, следует учесть необычно затянувшееся молчание Кремля относительно кандидатуры будущего президента Беларуси. Это наводит на ту мысль, что отъезд Мацкевича в Югославию — маскировочный психологический ход российских спецслужб. Ход, призванный убаюкать Лукашенко, усыпить его бдительность, дабы он перестал опасаться посадки на политическом поле Беларуси "десантника" из Москвы. На самом же деле от этой идеи Москва не отказывается.

Впрочем, если оттолкнуться от такого странного хода, то можно выйти и на четвертую версию. С подачи Москвы Мацкевич направился в Белград изучать опыт югославской бескровной революции. Пройдут полтора-два года, и генерал КГБ вдруг объявится в Минске эдаким Коштуницей.

Кто здесь прав, судить не берусь. Как принято говорить, рассудит время. Но, как мне кажется, в любом варианте в наилучшем положении пока оказываются люди с Лубянки. Именно им в первую очередь важно теперь иметь в такой сложной стране, какой сейчас является Югославия, послом не просто дипломата из Беларуси, а профессионального разведчика. Это и есть не абстрактный треп об интеграции Александра Лукашенко, а реальное воплощение на практике идеи союзного государства прагматика Владимира Путина.

**Владимир ГЛОД.**

ХОТИТЕ ПОЛУЧИТЬ
ВИД НА ЖИТЕЛЬСТВО
В США
GREEN CARD
БЕЗ ПРЕДОПЛАТЫ
Тел. 8-029-276-3333, 276-33-33, пейд. 8-017-211-0000 аб. 92-000

## Леонид Синицын прозрел...

С вниманием ознакомился со статьей Леонида Синицына, бывшего руководителя Администрации президента. Хорошо, что хоть с большим опозданием заговорила в нем совесть и он понял, кого привел к власти. А ведь это он, Федута, Лебедько, Гончар, Булахов и другие привели этого монстра к власти. И ничего лучшего не придумали, как потихоньку расстаться со своими должностями, дабы не нести ответственности за содеянное.

Я всегда с уважением относился к этой команде, верил ей, надеялся, что они знают того, кого предлагают. Как вспоминал ныне покойный Г.Карпенко, вместе тогда выпивали и закусывали пожелтевшим салом. Но, как говорится, чтобы узнать человека, нужно пуд соли съесть. Они, видимо, пуд соли с ним не съели, а поэтому ошиблись в своем выборе и тем самым обрекли народ на страдание, нищету и бесправие.

Теперь приближается время и появляется возможность исправить свою ошибку. Но времени мало, а практически ничего не сделано. Если какая-то работа в этом направлении ведется в центре, то в глубинке, как на дне океана, спокойствие. Население не имеет никакой информации по поводу предстоящих выборов. И если все так и будет продолжаться, то на 100 процентов можно утверждать, что ничего не изменится и на второй срок будет избран тот же человек.

Возможно, ко времени выдвижения кандидатов в президенты появятся яркие фигуры, но пока они о себе не заявляют. Честно говоря, мне бы хотелось выдвинуть на этот пост того же Л.Синицына. И думаю, у него есть шанс на победу. Но надо готовить команду единомышленников, готовых все для него сделать, как он это в свое время сделал для Лукашенко.

Да, я недоволен его действиями в то время и после его ухода из Администрации и тем, что все это время он отсиживался, не раскрывая людям глаза на правду. Но сегодня я готов вести активную работу по его избранию президентом, подобрать единомышленников в ряде районов и вести агитационную разъяснительную работу среди сельского населения.

Если у кого есть другие предложения — рад буду прочитать на страницах "Народной воли".

**Г.ЛИСИЦЫН,**
**житель г.Солигорска.**

**Па сутнасці**

## Віннікава лічыць арышт сына помстай з боку КДБ і Шэймана

Былы старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Тамара Віннікава пацвердзіла, што арыштаваны ў Мінску за "захоўванне наркотыкаў" Сяргей Віннікаў з'яўляецца яе сынам.

Т.Віннікава лічыць гэты арышт помстай за сваё інтэрв'ю радыё "Свабода" ад 12 лютага, у якім яна сфармулявала тры прычыны таго, чаму Вялікабрытанія не выдасць яе беларускім уладам.

Па-першае, банкірка паведаміла, што яе намеснікам у "Беларусбанку" быў дзейны супрацоўнік КДБ Андрэй Маркоўскі і менавіта ён падпісваў тыя дакументы, праз якія ёй цяпер прад'явілі абвінавачанні.

Па-другое, тагачасны дзяржаўны сакратар Рады бяспекі Віктар Шэйман зрабіў тады заяву, што "...справа не ў ва мне, а ў тым, што ад мяне цягнецца ланцужок да высокіх асоб дзяржавы", — сказала Т.Віннікава і дадала. — "Акрамя дачыненняў з ім, я яшчэ кантактавала з кіраўніком дзяржавы, іншых службовых кантактаў з высокімі чыноўнікамі я не мела. Што ён меў на ўвазе — не ведаю. У гэтым выпадку Лукашэнку давядзецца патлумачыць, чаму сакратар Рады бяспекі ўмешваўся ў працэс разгляду крымінальнай справы".

Па-трэцяе, у следчым ізалятары КДБ супраць яе прымянялі катаванні, заявіла "Свабодзе" былая банкірка.

Аднаго разу, ужо сёлета ў Лондане яна была збітая, у яе кватэру ўварваліся нейкія людзі, якія забралі з сабою сістэмны блок камп'ютэра. А пасля радыёінтэрв'ю ёй паступалі пагрозы па тэлефоне, і Т.Віннікава кажа, што чакала новых непрыемнасцяў, але меркавала, што яны будуць скіраваны супраць яе асабіста.

"Грамадства цудоўна разумее, што адбываецца, — сказала былая галоўная банкірка Беларусі агенцтву "Ю.С.Ньюс". — Набліжаюцца выбары. Але мая сям'я гатова прайсці ўвесь той шлях, які хоча для нас Лукашэнка".

Паводле Т.Віннікавай, яе сын Сяргей ужо сутыкаўся са спробай падкінуць яму наркотыкі: "Падчас вобыску ў маёй кватэры, дзе ён тады быў адзін з нашай сям'і, Сяргей заўважыў, як у маю спальню хацелі падкласці нейкі парашок. Але тады гэта не атрымалася".

Т.Віннікава паведаміла "Ю.С.Ньюс", што зусім нядаўна адзін з беларускіх журналістаў, які рыхтаваў з ёю пашыранае інтэрв'ю на тую ж тэму, трапіў у аварыю. "Усе гэтыя факты цяпер складваюцца ў ланцуг. Для мяне відавочна, што гэта помста", — зазначыла яна і выказала спадзяванне, што інтэрв'ю неўзабаве ўсё ж будзе надрукавана.

**Агенцтва "Ю.С.Ньюс".**

**Противостояние**

## Генерал Козловский подает в суд на Белтелерадиокомпанию

**"В программе Ю. Азаренка "Тайные пружины политики", которую Белорусская Государственная телерадиокомпания транслировала 15 и 17 марта, содержатся не соответствующие действительности сведения, порочащие мою честь, достоинство и деловую репутацию как гражданина, политического и общественного деятеля с позиции нравственности и законов нашей страны", — говорится в исковом заявлении, поданном генерал-полковником Павлом Козловским в понедельник, 26 марта, в суд Первомайского района г. Минска.**

Козловский требует опровержения "заведомо ложных, клеветнических измышлений, распространенных через единственный национальный телеканал", и просит взыскать с телерадиокомпании 20 миллионов рублей, а с ответчиков — Владимира Баклейчева, Юрия Азаренка, Виктора Чикина, Александра Зимовского и других — по 2 миллиона рублей с каждого.

Напомним, что в своем очередном "шедевральном" произведении Азаренок и Чикин-Никольский обвинили Павла Козловского в коллаборационизме, в развале армии (в бытность Козловским министром обороны. — **А.С.**), в этнических чистках, обозвали унизительным словом "подельник", а "владение белорусским языком оценили как непростительный изъян генерала".

Сам Козловский связывает особое внимание со стороны "телевизионного департамента президентской администрации", которым давно по своей сути является БТ, со своим решением участвовать в президентских выборах в качестве кандидата.

**Александр СИЛИЧ.**



